**Павел САКОВІЧ**




# ПЕВЕНЬ-КРЫТЫКАН

## БАЙКА Ў ПРОЗЕ

На адной гаспадарцы з'явіўся певень. Ён хадзіў заўсёды надзьмуты, незадаволены, драў без дай прычыны горла, ганяў па двары курэй і нават на людзей кідаўся... Аднойчы ўборачнай парой, сярдзіта агледзеўшы непрыбраны агарод, певень узляцеў па плот і пачаў прыводзіць сябе ў парадак: чысціць шпоры, залачоны, бліскучы хвост.

— Ну і гаспадарка, — бурчэў ён з пагардай. — Сапраўдная звалка!

Ля плота пачаў збірацца птушыны натоўп, і певень усё больш распальваўся:

— Глядзіце, што творыцца навокал! Усё перамешана, параскідана: агародніна, садавіна і нават зярняты, сярод якіх, на мой погляд, ёсць нямала рацыянальных. Словам, сапраўдны вінегрэт!

— Го-го-го! — зарагаталі гусі.

Заквахталі, лісліва запляскалі крыламі куры.

— Куд-куд-куды глядзіць наш гаспадар? — пачалі азірацца хворыя на курыную слепату слухачы.

Згаладаўшыся за час працяглай прамовы, певень скочыў на зямлю, каб крыху замарыць чарвячка. Ён прагна дзюбаў зерне і толькі пахвальваў:

— Клёва, вельмі клёва!

Знайшоўшы лужыну і добра прамачыўшы горла, певень зноў ускочыў на «трыбуну»... Пакуль ён, расхаджваючы па плоце, крытыкаваў, патрабаваў і папярэджваў, гаспадары паспелі падабраць агародніну, згрэбці бульбоўнік. Потым яны вырашылі падрамантаваць плот і сагналі нарэшце прамоўцу.

Певень адляцеў далей, наліўся чырванню па самы грэбень і незадаволена зазначыў:

— Вось так заўсёды... Ледзь што не па іх — дзюбу затыкаюць. Не, я не магу больш цярпець такія парадкі! Пайду да іншых гаспадароў — там мяне лепш ацэняць.

І певень пераляцеў праз плот у чужы агарод. Новы гаспадар сапраўды быў рады перабежчыку: ён гасцінна расчыніў перад ім свой хлеў і...

Кажуць, іншаагародны гаспадар меў добры навар з булёну.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## У ЧЫМ ПРЫЧЫНА?

Не рэдка,
Не часта —
Хваліла начальства.
Цяпер жа, бывае, —
Мне пальцам
Ківае.
У чым тут прычына?
Ды ў гэтым, магчыма:
Я сам
Ля начальства
Ківаюся часта...



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



**Міхась СЛІВА**




*Гумарэска*

Раніцай сакратарка паклікала ў кабінет дырэктара маладога эканаміста Свірскага.

— Мікола, трэба тэрмінова ехаць у камандзіроўку! У сталіцу, на два дні. Я павінен быў сам, але цешча занядужала, не магу.

— У мяне ж тэрміновая работа, Аркадзь Захаравіч! — узмаліўся эканаміст.

— Нічога не ведаю, паедзеш! На вось, чытай, запрашаюць на нейкі там сімпозіум. Дарэчы, камандзіровачныя расходы за іх кошт. Так што давай, збірайся ў дарогу.

— Ну што ж, трэба дык трэба! — згадзіўся Свірскі і ўзяўся чытаць паперу: — О, дык там будзе і фуршэт!

— Няўжо? — здзівіўся дырэктар. — А я не дачытаў да канца.

— І падарункі будуць даваць удзельнікам сімпозіума! — радасна працягваў Свірскі. — А на такім мерапрыемстве не скупяцца! Ура! Еду!

— Што, падарункі!? — навастрыў вушы дырэктар. — Ведаеш, даражэнькі, не спяшайся, я яшчэ падумаю, ці варта табе туды ехаць, час губляць...

— Аркадзь Захаравіч! Ды я згодны!

— У цябе што, работы няма? Ты ж казаў, што ёсць тэрміновыя справы. Вось і займайся!.. А на сімпозіум — адказнае мерапрыемства як ніяк, трэба сур'ёзны прадстаўнік — давядзецца мне самому паехаць.

Свірскі сумна пацягнуўся да дзвярэй...

*г. Рагачоў.*








← Малюнкі Алега ПАПОВА.

→ Малюнкі Аркадзя ГУРСКАГА.









Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## ІРАНІЗМЫ

### Прыстасаваўся

Хоць доўга на свеце жыву —
Такога не бачыў умення:
Ён горда трымаў галаву
І цвёрда стаяў на каленях.

### Што лепш?

Нам непрыемна кожны раз,
Калі гавораць дрэнь пра нас.
Ды горш бывае тымчасова,
Калі пра нас — нідзе ні слова.



### Прагнозы

Прызнаць сягоння ёсць нагода:
Псуе прагнозы непагода.

### Пра сучасных дзяўчат

Разумнеюць дзяўчаты!
І не без прычын:
Не проста абдурваць
Ашчадных мужчын.

### Пра сустрэчы

Часцей з сябрамі
Трэба сустракацца:
«Як пастарэў!» —
Каб не маглі здзіўляцца.



### Пра плямы

Часта чуецца лямант
Ад брыдоты ў адказ:
«І на сонцы ёсць плямы,
Што ж вы ганіце нас?»

### Пра каханне

Асвоіць кахання навукі
Хацеў, ды віною — парогі:
Раней не даходзілі рукі,
Цяпер не даходзяць і ногі...

### Пра дурняў

Патрэбна гэтае прызнаць:
Без дурня не абыдзецца разумнік,
Бо ўсё ж разумных заўважаць
Прасцей, калі ёсць побач дурні.

### Пра крытыку

О, крытык бедны, не пішыце
Аб тым, чаго я не пісаў.
І як пісаць, лепш не вучыце,
Каб я куды ісці вам не сказаў.




✓ Часцей сваю рэпутацыю падмочваюць тыя, хто не прасыхае.

✓ Язык мой — вораг мой. І іншых таксама.

✓ Дэмаграфічны выбух самы мірны.

✓ Чалавечае жыццё вельмі доўгае, каб не нарабіць памылак, і вельмі кароткае, каб іх выправіць.

✓ Удары лёсу могуць заканчвацца накаўтам.

**Прапанаваў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

✓ Вопытны чалавек — гэта той, каго нельга ашукаць.

✓ Самае цяжкае для чалавека — быць ім.

✓ Гора таму, хто не сустрэўся са сваім лёсам.

✓ Курыца дзяўбе чарвяка, ды не бачыць, што над ёй каршун кружыцца.

✓ І маленькая дробязь мае часам вялікую каштоўнасць.

✓ Лепш нарадзіцца вадзіцелем, абы не п’яніцам.

✓ Адна цішыня слухаць сябе ўмее.

✓ Добры зрок нярэдка можа сапсаваць жыццё.

✓ Прачытаная кніга — тая, якую больш не перачытваеш.

✓ Лёс штурхае нас туды, куды яму больш зручна.

✓ Мы лёгка пакідаем малую радзіму, але яна ніколі не пакідае нас.

**Даслаў Васіль ДЗЯМБІЦКІ,**
*Талачынскі раён,*
*в. Звенячы.*

## ІГОЛКА-ТЭРАПІЯ

### Калі золата цямнее...

***Мінская вобласць.*** Карл Маркс лічыў, што калі прыбытак у капіталіста дасягае трохсот працэнтаў, той гатовы пайсці на любыя злачынствы. Цікава, што б ён сказаў пра смалявіцкага дзялка, які атрымліваў даход у... дзесяць тысяч працэнтаў!

Схема «бізнесу» была простая, як сасновы гарбыль. У магазіне «Смалявічы – Сузон» прадпрыемства «Белкалій» махінатар набываў «датацыйныя» калійныя ўгнаенні (нібыта для айчынных аграпрадпрыемстваў) па цане 30 долараў за тону, а затым прадаваў у Смаленскую і Бранскую вобласці. Але – па 300 долараў! Уражваюць і маштабы: агульныя страты ад махінацый склалі 1,8 мільярда рублёў!

Неўзабаве «смалявіцкую» аферу выкрылі. Галоўны дзялок-звышкапіталіст знаходзіцца ў вышуку. Шукаюць і яго магчымых хаўруснікаў, для якіх калій зацямніў золата.

### Захварэлі на... шчодрасць

***Гродна.*** На рэдкую хваробу – паталагічную шчодрасць за дзяржаўны кошт – захварэлі работнікі адміністрацыі Ленінскага раёна горада, калі афармлялі дакументы на будаўніцтва кватэр. «Паспачувалі» адной сям'і і выдзелілі пры будаўніцтве кватэры – па месцы жыхарства – бязвыплатную аднаразовую субсідыю ў памеры звыш 44 мільёнаў рублёў. А члены той сям'і не толькі сказілі ў дакументах звесткі пра свой сукупны гадавы даход, але і ўтаілі, што будуюць яшчэ адну кватэру – па месцы ваеннай службы мужа.

У праявах паталагічнай шчодрасці былі заўважаны і работнікі адміністрацыі Кастрычніцкага раёна горада. У выніку адзін гродзенец ні з таго ні з сяго атрымаў аднаразовую 7-мільённую бязвыплатную субсідыю, а другі незаконна займеў зямельны ўчастак коштам больш за 75 мільёнаў рублёў ды крэдыт пад 5 працэнтаў гадавых...

Толькі кантралёры змаглі нарэшце спыніць праявы гэтай рэдкай паталагічнай хваробы ў мясцовых адказных работнікаў. Як будуць змагацца з рэцыдывамі гэтай балячкі, даведаемся пазней.

### Мара пра мора

***Бабруйск.*** Ёсць адна немудрагелістая песенька, у якой герой выращае: кім лепш стаць, калі б раптам перад ім з'явілася мора піва, ну, ці мора гарэлкі. А калі мора спірту? На гэта пытанне напэўна змог бы адказаць 48-гадовы мясцовы жыхар, у якога міліцыянеры знайшлі ў гаражы і ў аўтамабілях амаль 2 тысячы літраў нелегальнага спірту.

Невядома, ці адмовіўся ўладальнік гэтай вадкасці ад сваёй мары ўбачыць мора спірту, але штраф у памеры да ста базавых велічынь яму, відаць, давядзецца выплаціць. Спірт, дарэчы, мяркуюць канфіскаваць...

### «Штрафны» лес

***Мінская вобласць.*** Неверагодна, але на тэрыторыі Старобінскага і Любанскага лясгасаў расце незвычайны лес. Заходзіш у яго – і адразу атрымліваеш штраф, трапляеш як правапарушальнік у агульнарэспубліканскую базу. І не таму, што распальваеш вогнішчы, ці блукаеш па лесе ў забаронны перыяд, ці смецце раскідваеш абы-дзе. А па той прычыне, што спецыялісты гэтых лясгасаў атрымалі ўказанне «зверху», колькі адміністрацыйных пратаколаў трэба скласці, інакш... «Трэба – напішам!» – вырашылі падначаленыя і ўзяліся за справу. Прынцып адбору «штрафнікоў» быў наступны: спадабалася прозвішча – будзеш парушальнікам, не спадабалася – таксама будзеш! Такім чынам летась на невінаватых асоб, якія пра тое нават не здагадваліся, было выпісана 7 папярэджанняў.

Вось і задумаешся пасля гэтага, ідучы ў лес: звычайны ён ці «штрафны»? І ўсё ж лепш гуляць, чым сядзець і чакаць прысуду, як службовыя асобы гэтых лясгасаў, у адносінах да якіх узбудзілі крымінальныя справы.

### Вось дык пагарэў!

***Магілёў.*** Не верыцца, але 52-гадовы віцебскі прадпрымальнік пагарэў на... вогнетушыцелях! Калі яго машыну «Фольксваген Шаран» супрацоўнікі фінансавай міліцыі спынілі каля аўтамабільнага рынку па Гомельскім шасэ, то знайшлі ў ёй 120 балонаў. Ні суправаджальных дакументаў, ні ліцэнзіі на апараты для тушэння пажару ў прадпрымальніка не было. Цяпер яму «свеціць» штраф у некалькі мільёнаў рублёў з канфіскацыяй нелегальнага тавару.

На здзіўленае пытанне гора-пажарніка «Адкуль вы здагадаліся пра мой груз?» кантралёры толькі пасміхнуліся: «На злодзеі шапка гарыць!»

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***



Малюнак Алега ГУЦОЛА.





Малюнкі Андрэя СКРЫННІКА.




У сакавіцкім нумары часопіса ў рубрыцы «Вожыку» пішуць...» наш чытач Сяргей Лапцёнак шчыра здзіўляўся таму, што на этыкетцы звычайных мужчынскіх штаноў, якія выпускае гомельскае ААТ «Камінтэрн», указваецца абхват грудзей. Намеснік генеральнага дырэктара па якасці згаданага таварыства І. Жульева прачытала гэтае пісьмо і звярнула нашу ўвагу на тое, што паводле СТБ 947-2003 штанамі лічыцца «...швейная или трикотажная поясная одежда, покрывающая нижнюю часть туловища и ноги, каждую в отдельности». А таксама праінфармавала аб тым, што «...Брюки как и пиджак, который, в качестве плечевой одежды (СТБ 947-2003) «покрывающей туловище и частично бедра» являются составляющими костюма» *(правапіс арыгінала тут і далей захаваны – **рэд.**)*. І зрабіла заключэнне: «Слово «туловище» встречается в определении и того и другого вида одежды, поэтому и пиджак, и брюки имеют общие размерные признаки: «рост», «обхват груди» и «обхват талии». У канцы свайго змястоўнага адказу І. Жульева, відаць, вырашыла прадэманстраваць сваю дасціпнасць і валоданне некалькімі мовамі і, нечакана перайшоўшы з рускай мовы на беларускую, пакпіла: «Зразумела, што «Братку Вожыку» не патрэбен ні касцюм, ні штаны, и ён *не ведае усяго гэтага*». (Наколькі ёй гэта ўдалося, вырашайце самі...)

Сапраўды, як тонка і ўнікліва прыкмеціла намеснік генеральнага дырэктара па якасці, вожык не носіць штаноў. Але калі б яна прачытала крытычны матэрыял больш уважліва, то заўважыла, што гэтае пытанне ўзняў не братка Вожык, а чытач часопіса, мужчына, які носіць штаны і які звярнуўся са сваім пытаннем у рубрыку «Вожыку» пішуць...» І ён, як і многія іншыя пакупнікі, «*не ведаў усяго гэтага*». Бо наўрад ці ўсе спажыўцы валодаюць поўнымі і грунтоўнымі звесткамі па нормах СТБ і ДАСТах, згодна з якімі выпускаюцца шматлікія тавары (у тым ліку і штаны). І, відаць, не павінны. Бо пра выкананне гэтых патрабаванняў рупяцца адпаведныя службы і органы.

Цікава і тое, адкуль раптам побач са штанамі з'явіўся пінжак, пра які ні С. Лапцёнак, ні «Вожык» і словам не згадалі? Пра тое, што касцюм складаецца са штаноў і пінжака, пакупнікі звярталі ўвагу і раней. Але ж штаны прадаюцца і асобна! І ў пісьме размова ішла менавіта пра штаны...

Сапраўды, слова «тулава» сустракаецца ў азначэнні і аднаго, і другога віду адзення. Але, калі карыстацца адпаведнымі тэрмінамі, то пінжак пакрывае верхнюю частку тулава, а штаны, як ні круці — ніжнюю. І памераць у ніжняй частцы тулава абхват грудзей падаецца, на наш погляд, усё ж праблематычнай справай.




Нічога не зробіш: дзяржаўны стандарт ёсць дзяржаўны стандарт. Але здаровы сэнс падказвае, што ў гэткім стандарце памерных параметраў паяснога адзення нешта ці то занадта мудра, ці то занадта скрупулёзна. Бо, напрыклад, паводле міжнароднага стандарту «на штаны» (S, M, L, XL, XXL) вымяраюцца даўжыня ног, унутранае шво і лінія таліі, а паводле кітайскіх і амерыканскіх стандартаў мераюць талію (пояс) і даўжыню ног. Вось на гэту акалічнасць і звяртаў увагу наш дапытлівы чытач.

Цешыць у гэтай сітуацыі адно: простаму чалавеку жыць з такімі стандартамі весялей. Бо вымяраць праславуты абхват грудзей трэба нават тады, калі надумаешся купіць... ніжнюю бялізну. Этыкетка, як кажуць, прыкладаецца.

Дык што, шаноўныя вытворцы, працягнем збіраць «калекцыю» далей ці ўсё ж прыслухаемся да меркаванняў і заўваг пакупнікоў? Бо, як кажуць, адно вока бачыць далёка, а два — яшчэ далей...




Малюнак Пятра КОЗІЧА.





Малюнкі Алега ПАПОВА.

## • Назіранкі •

• І з коміна дым ідзе, калі ў печы паляць.

• І дзяўчына — нявеста, калі сваты ў хаце.

• І рубель нечага варты, калі ім заплаціць можна.

• І зімой снег тае, калі надвор'е такому спрыяе.

• І цешча — чалавек, калі зяць — не звер.

• І грыб наварысты, калі з мясам варыць.

**Заўважыў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.

# Акцыі на ўважлівасць

*Фельетон*

Шчыра скажу: зорак з неба ў школе не хапаў. Асабліва задачы на прапорцыі не даваліся. Гэта ж трэба мець талент лічбамі ў галаве жангліраваць! Але прайшоў час — і школьныя пакуты прыпамінаюцца са смехам. Цяпер я — спец па вусным лічэнні. Жыццё прымусіла.

Заходзіш, скажам, у гіпермаркет, а там цэлая гара расфасаванай грэчкі ляжыць. І плакат: «Суперакцыя!!! Грэчка па 8400!!!» Цана на дзіва прывабная. Але ж і ў пакетах (трэба быць уважлівым!) усяго па 700 грамаў. А колькі каштуе кілаграм? Над такою задачкаю я ў 7 класе плакаў, а цяпер шчоўкаю яе як арэхі. Калі 700 грамаў каштуюць 8400, то 1000 грамаў будзе каштаваць ікс рублёў. Ікс роўны... М-м-м... Тэкс... Ага... Кілаграм грэчкі каштуе 12900 рублёў! Сапраўды, танней, чым у кілаграмовым пакеце. Значыць, гэта сапраўды акцыя. Акцыя зніжэння цаны, каб за кошт росту аб'ёму тавара распрадаць леташнюю грэчку да новага ўраджаю.

Ці вунь бутэлькі вады радамі стаяць: таксама акцыя! Танней на тысячу. Бяру пяцілітровую бутлю.

І яшчэ акцыя: танны зялёны гарошак айчыннай вытворчасці. Да кожнага слоіка ў падарунак пачак сурвэтак прыклеены. Дык гэта ж суперакцыя: танны гарошак плюс бясплатныя сурвэткі! Бяру аж тры слоікі. Не, лепш чатыры.

Сустракаю суседа, вечна панурага Васіля Сямёнавіча. Незадаволена бурчыць:

— Што, вады узяў? Пастаў...

— Чаму?

— Паглядзі на цэнніку, гэта не тая вада.

— Як не тая?

— А так. Спытай у таваразнаўцы.

Спытаў. І вось што пачуў:

— Ну, не тая гэта вада. Тую ўжо раскупілі, а плакат з цэннікам мы зняць забыліся...

— Дык вы ж падманваеце пакупніка! — шчыра абураюся я.

— Ніхто нікога не падманвае, — не здаецца таваразнаўца. — Пакупнікі самі вінаваты. Вечна спяшаюцца, бягуць некуды... Лянуюцца адшукаць сярод процьмы цэннікаў і этыкетак свае тавары, зверыць ды пераправерыць адно з другім! А потым крыўдзяцца, вінаватых шукаюць.

Паставіў я ваду на месца, вярнуўся да Васіля Сямёнавіча:

— Праўду кажаш. На вадзе нічога не выйграю. А вось затое гарошак купіў з бясплатнымі сурвэткамі!

— Ты за гэтыя сурвэткі не тое што двойчы, але і тройчы заплаціў, — прабурчэў сусед.

— Як?

— А так — гандлёвай нацэнкай на гарошак. Не верыш?

Я пацiснуў плячамі.

— Ну, і вер далей у бясплатны сыр! Каб завабіць цябе ў магазін, не такіх рэкламных акцый панавыдумляюць. Толькі зайдзі, а потым што-небудзь ды абавязкова купіш. Нават непатрэбнае. Разумееш? Такая псіхалогія ў чалавека. А гандляры гэтым карыстаюцца. Яны нават зваротны бок Месяца ўмудраюцца разбіць на соткі і прадаваць усім жадаючым.

— Вось як?! У мяне гэтулькі грошай няма: соткі на Месяцы купляць. Я лепей тут чаго куплю. Акцыі ўсё ж! Трэба напісанаму верыць.

— Яны табе напішуць! — ускіпеў Васіль Сямёнавіч. — Зайшоў я нядаўна ў мэблевую краму. Вялізны плакат прачытаў: «Купі ў нашым магазіне мэблю і атрымай бясплатна столік для снедання ў пасцелі». А я ж усё жыццё пра такі столік марыў! Ну, думаю, куплю табурэтку якую, а мне і столік дадуць.

— І што?

— Дагналі і яшчэ раз далі, — скрывіўся сусед. — Аказваецца, той мэблі трэба купіць не меней як на два мільёны. Тады і столік дадуць. Скажы, хіба не падман?

— Падман... — згадзіўся я. — Ух ты, якія манюкі! Ды што казаць — пакупнік у наш час павінен быць пільным: уважліва глядзець, чытаць і лічыць!.. Але пойдзем, мне яшчэ ў вінна-гарэлачны аддзел трэба зазірнуць.

— Пойдзем! — ажывіўся Васіль Сямёнавіч. — Я табе яшчэ не тое раскажу. Хоць, браце, з гэтага аддзела і варта нам было з табой пачынаць...

**Антось ГАРЧЫЦА.**




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.






Малюнкі Андрэя СЛУЦКАГА.

Мікола МАСКЕВІЧ




## Па сакрэце

Жыла ў нашай вёсцы Матруна. Ведама, усе жанчыны любяць лясы патачыць, а яна дык і зусім. Як пачне языком мянціць, дык давеку не спыніш! Іншы раз нават забудзецца, каму і што кажа.

Сустрэла неяк маю маці ды баіць: «Мая ты Антуніначка! І што гэта на свеце робіцца? Сама бачыла, як сёння ў белы дзень (кажу табе гэта па вялікім сакрэце!) Сымон цягнуў аднекуль на спіне вялізную капу сена. Няйнакш, як украў. А такі, здаецца, сумленны чалавек!»

Маці не знайшлася, што і адказаць: Сымон, яе муж, сапраўды пераносіў з поля ў свой двор высушанае сена. І не заўважыў, як стаў «злодзеем»...

## «Язэп, ты спіш?»

Некалі ў вёсцы калгас пабудаваў збожжасклад. І хоць будынак пільна ахоўваўся, спрытныя злодзеі не-не ды знаходзілі магчымасць трапіць за яго дзверы.



Аднойчы, калі вартаўнік прыйшоў на працу і, стомлены чаркай, заснуў, ліхадзеі вырвалі дзвярны прабой ды ўкралі са склада некалькі мяшкоў збожжа. Калі ж той нарэшце адпачыў, дык убачыў на дзвярах склада нашкрэбаны вугалем надпіс: «Язэп, ты спіш? Ну, чорт з табой, не моцна ты забіў прабой!»

Вартаўніку давялося спешна выціраць з дзвярэй чужыя кпіны, а назаўтра несці ў кантору заяву на звальненне.

## Незвычайны музыкант

Жыў у нашай вёсцы музыкант Іван. Нярэдка атрымліваў запрашэнні то на вечарыны, то на вяселлі, то на хрэсьбіны. Быў у яго, праўда, адзін недахоп: як падап'е добра, дык не памятае, што іграе і на чым.

Гэтым і карысталіся часам вясковыя жартаўнікі. Убачаць, што Іван перабраў лішку, падцікуюць і замест гармоніка падсунуць яму ў рукі начоўкі, ступу ці іншы сялянскі «інструмент». Схопіць музыкант той «інструмент» у запале ў рукі і давай перабіраць пальцамі, давай спяваць! Наўкола смех, жарты, а Іван не зважае, «іграе».

Ніводная вясёлая бяседа не абыходзілася ў вёсцы без гэтага незвычайнага музыканта. Іншых гарманістаў, шчыра кажучы, у нас і не было...

## «Знахарка»

Гэту гісторыю я чуў ад сваёй маці.

Захварэла аднойчы маладая дзяўчына-яўрэйка. Што толькі не рабілі — нічога не дапамагае. Ніякай рады дактары не маглі даць. Вырашылі ўрэшце бацькі да знахаркі звярнуцца. Даведалася маці дзяўчыны, што ў адной з вёсак жыве старая жанчына, якая лечыць. Паехалі да яе.

«Не, людзі добрыя, ніякая я не знахарка! — пачала адмаўляцца бабуля. — Я і малітваў добра не ведаю. Не, не буду лячыць...» Але бацькі дзяўчыны кінуліся ў слёзы, напрамілы бог прасілі дапамагчы. Давялося жанчыне пагадзіцца. Два разы прывозілі яны сваю дачушку — і хваробу як рукой зняло! Дзяўчына паправілася.

«І як ты яе здолела вылечыць, калі нават дактары рукі апусцілі?» — даймалі кабету пытаннямі цікаўныя аднавяскоўцы. Але тая зацята маўчала. І толькі потым адной са сваіх сяброўак прызналася: «Не ведала я, як лячыць. Якая з мяне знахарка? А тады прыдумала. Хрысцілася і казала: «Ішла каза каля рова, а ты, яўрэечка, будзь здарова». І што ты думаеш — вылечыла!»

Але, слова сапраўды лечыць...

*г. Мядзел.*





Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.

Вожык у Асобах

*У творчай біяграфіі выдатнага паэта Генадзя КЛЯЎКО (1932 – 1979) прыкметнае месца займаў часопіс «Вожык», дзе ён нямала адпрацаваў літсупрацоўнікам, а затым – адказным сакратаром (1961 – 1973). У гэты час Генадзь Якаўлевіч «запісаўся» і ў вожыкаўскую «Бібліятэку»: у 1964 годзе ў ёй выйшла кніжка гумарыстычных вершаў «Лайдак і кнопкі», а ў 1971 – «Што праўда, то не грэх...» На гумар паэт быў здатны. Ім добра падфарбаваны і яго многія лірычныя творы.*

*А сваім нараджэннем Генадзь Кляўко абавязаны вёсцы Варонічы, што ў Пухавіцкім (тады – Рудзенскім) раёне на Міншчыне. Пасля заканчэння філфака БДУ імя У. І. Леніна працаваў у газеце «Калгасная праўда», а пасля «Вожыка» – намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». «Калі ёсць прычына, люблю пасмяяцца і сам з сябе, і з іншых, – прызнаваўся Генадзь Кляўко. – Што праўда, то не грэх...»*

*Няма грэху пасмяяцца і нам, перачытаўшы некаторыя гумарыстычныя творы сапраўднага вожыкаўца, таленавітага паэта Генадзя Кляўко, якому споўнілася б у маі 80 гадоў.*



## Генадзь КЛЯЎКО

### Сарокі студню абярнулі

Аднойчы неяк дзве сарокі
Трашчалі, крылы ўзяўшы ў бокі:

– Вы чулі?..
Голуб прыляцеў
У сваты да Сініцы.
Сямёра кінуў ён дзяцей,
А з імі – маладзіцу!..

– Вы чулі?..
Кажуць, што Ласю
Скруціла гэтак рогі,
Бо анікалі ён дасюль
Не памаліўся богу...

– Вы чулі?..
Зайцу-русаку,
Каб зняць у лесе хатку,
Прыйшлося сунуць Вепруку
Аж сто рублёў задатку...

– Вы чулі?..
Воўк пражыў сем дзён
Капусткаю заечай,
Бо ўжо даўно баіцца ён,
Нібы агню, авечак...

Прабачце, вы не чулі?
Сарокі студню абярнулі.



**ЭПІГРАМЫ**

### Пра соль

Пісаў пра соль адзін паэт,
Пра нашу соль кухонную,
Крычаў у вершы на ўвесь свет,
Што соль, як хлеб, надзённая.

– Шкада, – ўздыхнулі ўсе міжволі,
Што выйшаў верш без солі.

### Жыў-быў

Жыў-быў пісьменнік...
Карацей,
Няшчасны самы ў свеце:
Стварыць аповесць пра дзяцей
Перашкаджалі... дзеці.

**МІНІЯЦЮРЫ**

### «Адказная» сакратарка

Была яна адказнаю
Ў прыёмнай нездарма, –
Заўсёды ўсім адказвала:
– Дырэктара няма!



### Прыхільніку белых вершаў

Ты можаш рыфмаў не любіць,
Ды толькі дай мне веры:
Верш можа нават белы быць,
Але ні ў якім разе – шэры.



### Над эпітафіяй ананімшчыку

На пліце – ні імя, ні даты,
Ні звання няма, ні чыну...
Тут ананімшчык заціты
Знайшоў сабе супачынак.



### Быў Халімон

Быў Халімон як Халімон
(Не ганім мы імёны),
Перад начальствам гнуўся ён
І стаў... Падхалімонам.



# Як стала вядома...

## Атрымалі вымовы

У № 2 за г. г. «Вожык» надрукаваў адказ дырэктара ААТ «Бальшавік-Агра» П. Гайкевіча на сатырычны матэрыял «Каперфільд адпачывае». Праз некаторы час рэдакцыя атрымала яшчэ адзін ліст, але больш змястоўны, за подпісам старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Мінскага аблвыканкама В. Грышанава. У прыватнасці, ён паведаміў, што галоўнаму бухгалтару ААТ «Бальшавік-Агра» І. Канаплянік, бухгалтарам Т. Круглік і Т. Дзмітрачковай, а таксама дырэктару П. Гайкевічу аб'яўлены вымовы. Начальніку аддзела бухгалтарскага ўліку, справаздачнасці і статыстыкі—галоўнаму бухгалтару камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Мінскага аблвыканкама М. Буры аб'явілі вымову, а з намеснікам начальніка ўпраўлення жывёлагадоўлі Л. Агейчык спынены працоўныя адносіны. Вымовы атрымалі і адказныя асобы Салігорскага райвыканкама: старшыня выканкама А. Рымашэўскі, намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання выканкама па жывёлагадоўлі Н. Засімовіч, галоўны бухгалтар гэтага ўпраўлення Р. Вабішчэвіч. Першаму намесніку старшыні Салігорскага райвыканкама—начальніку райсельгасхарчу калегія аблсельгасхарчу рэкамендавала па фактах скажэння дадзеных бухгалтарскага ўліку па свінатаварным комплексе ААТ «Бальшавік-Агра» накіраваць усе неабходныя дакументы ў праваахоўныя органы для дачы прававой ацэнкі ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам.



## Вызвалены ад пасады

На крытычны матэрыял «Бярмудскія кішэні» («Вожык» № 3 за 2012 год) адгукнуўся намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Л. Цупрык. Ён паведаміў, што старшыня Матыкальскага сельсавета А. Прыгара вызвалены ад пасады, а пытанне з зямельнымі ўчасткамі будзе вырашана пасля завяршэння праваааховымі органамі следчых дзеянняў.




Пайшоў я неяк, дружа Вожык, у краму па хлеб. Пашанцавала: трапіў на ўлюбёны гатунак усёй нашай сям'і – «Паланга» завецца. А пакуль стаяў у чарзе, прачытаў этыкетку. «Хлеб «Паланга» темная резанный»... Неяк не па-нашаму атрымліваецца, так?

Зразумела, што стылістычных рэдактараў для складання тэксту этыкетак не набярэшся. Але ж не так і часта новыя этыкеткі пішуцца. Дык чаму б хоць зрэдку ў слоўнік не зазірнуць? А то неяк крыўдна. Бо хлеб гэты на самай справе вельмі смачная. Прабачце, смачны.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*






Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



# Аляксандр ШМІДТ

## Формула дасканалай карыкатуры

*Аляксандр ШМІДТ — чалавек «фундаментальны». Скончыў матэматычны факультэт Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, працаваў выкладчыкам у віцебскіх ВНУ, вучыўся ў аспірантуры. Затым абараніў дысертацыю і стаў кандыдатам фізіка-матэматычных навук. А пакуль займаўся дакладнымі навукамі, вывеў і формулу дасканалай карыкатуры. Малюнкі А. Шмідта адрозніваюцца лаканізмам і незвычайнай пластыкай. Мастак спецыяльна «выцягвае» ці «завальвае» сваіх персанажаў, каб яны вылучаліся на фоне класічных узораў карыкатуры іншых, больш сталых майстроў. Яго малюнкі на сацыяльныя, маральныя, эканамічныя, маладзёжныя тэмы з поспехам друкуюцца ў выданнях краін СНД і за яе межамі. А. Шмідт — удзельнік больш чым ста міжнародных конкурсаў і выставак карыкатуры ў Расіі, Германіі, Іспаніі, Партугаліі, Італіі, Сербіі, Карэі, Індыі і іншых краінах.*



Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.
















*Член міжнароднага клуба карыкатурыстаў «Cartunion». Першую карыкатуру Аляксандр апублікаваў у 1995 годзе ў газеце «Витебский курьер». Тады ж пачаў працаваць мастаком у абласной газеце «Народное слово», вёў там гумарыстычную старонку. Друкаваўся ў гумарыстычных газетах «Пикник», «15 суток», пасябраваў і з часопісам «Вожык». Пазней яго малюнкі з'явіліся на старонках расійскіх газет і часопісаў — «Вокруг смеха», «Колесо смеха», «Чаян», «Крокодил». Акрамя матэматыкі і карыкатуры, А. Шмідт шмат гадоў захапляецца аўтарскай песняй. Сольна і ў складзе трыа станавіўся лаўрэатам разнастайных конкурсаў і фестываляў у Беларусі, Расіі і ва Украіне, з'яўляўся адным з арганізатараў свята аўтарскай песні «Витебский листопад». Прага новага завяла Аляксандра Міхайлавіча, які нарадзіўся ў Віцебску, у новыя мясціны. Цяпер ён жыве ў Падмаскоўі, працуе ў школе выкладчыкам. Але падтрымлівае цесную сувязь з «Вожыкам», дасылае свае малюнкі. І — паспяхова карыстаецца ўласнай формулай дасканалай карыкатуры. Паглядзіце на яго новыя работы і пераканайцеся ў гэтым самі!..*



*Сёння ў нашай рубрыцы прадстаўлена маладая аўтарка — Алена БАСІКІРСКАЯ.*
*Дзяўчына працуе ў Міёрскім раённым метадычным цэнтры культурна-асветніцкай работы, а таксама завочна вучыцца на філфаку Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.*
*Алена — сябра беларускага літаратурнага саюза «Полоцкая ветвь», друкавалася ў газетах «Міёрскія навіны», «Полацкі веснік», «ЛіМ», «Краязнаўчая газета» і іншых.*
*А затым асмелілася даслаць свае творы ў часопіс «Вожык».*
*Мы з усмешкаю друкуем яе першыя гумарыстычныя спробы пяра і жадаем новых творчых набыткаў!*







Панядзелак. Сем гадзін раніцы. Звініць будзільнік. Час збірацца на працу. Уставаць не хочацца.

«Але, — думае Сцёпка, — знайшлі дурня кожны дзень на працу хадзіць. Сёння — не пайду! — і націскае кнопкі тэлефона. — Віктар Іванавіч, добрай раніцы. Гэта Сцяпан. Вы ўжо на працы? Ага-ага, і я вельмі хачу, але не магу. Захварэў... Ага... Тэмпература — пад сорак. Калоціць усяго. Але за сёння, спадзяюся, вылечуся. Ага-ага, заўтра буду!..»

Сцёпка накрываецца коўдрай з галавой і соладка засынае... Пасля працы хворага праведваюць калегі. Прыносяць лекі, садавіну, сокі, цукеркі. «Ну што вы, навошта? — мужчыну няёмка, але нічога не зробіш: хворы. — Дзякуй». Калі супрацоўнікі сыходзяць, ён уключае тэлевізар і ласуецца фруктамі...

Назаўтра Сцёпка прыходзіць на працу, а ў аддзеле — нікога. Бяжыць да начальніка:

— Віктар Іванавіч, куды падзеліся мае калегі?

— А-а, паправіўся! — радасна сустракае яго начальнік. — А калегі твае — захварэлі. Праведалі цябе ўчора і... Давядзецца пакуль аднаму папрацаваць. Што зробіш, калі ў іх тэмпература пад сорак і калоціць?

— Ды якая там тэмпература? — абураецца Сцёпка. — Адкуль?

— Дык хвароба ж заразная, — не адступаецца Віктар Іванавіч.

— Ніякая не заразная, і не хвароба гэта, а так, лянота! — усклікае Сцёпка і замірае: гэта ж трэба так сябе выдаць!

Начальнік хітра пасміхаецца ў вусы:

— Лянота — гэта таксама хвароба. Але не перажывай — яна лечыцца. Працай. А калегі твае — у камандзіроўцы. Таму давядзецца табе за іх сёння папрацаваць!

Сцёпка нізка схіляе галаву і ідзе ў аддзел: працы яму хопіць на ўвесь дзень...




Сцёпка пайшоў у цырульню.

— Зрабіце, — кажа, — мне такую прычоску, каб і стыльная была, і да твару пасавала, і дзяўчатам падабалася.

Дзяўчына-цырульніца бярэцца за працу...

— За што я грошы буду плаціць? — абураецца Сцёпка, зірнуўшы ў люстэрка. — Вы ж толькі крыху мяне пастрыглі. Стрыжыце больш!

Цырульніца знімае яшчэ пяць сантыметраў.

— Яшчэ карацей! — загадвае ён. — Мне што, кожны месяц да вас прыходзіць ды грошы плаціць? Стрыжыце, каб на год хапіла!

Цырульніца выконвае пажаданне кліента.

— Вы што нарабілі! — крычыць Сцёпка, убачыўшы сябе ў люстэрку. — Навошта вы мяне так абстрыглі, ажно лысіна блішчыць?

— Вы ж самі прасілі, — адказвае цырульніца.

— Я пра лысіну не прасіў! — лямантуе мужчына. — Я прасіў карацей! Я скардзіцца буду!

— Ды не перажывайце так, — супакойвае яго дзяўчына, — вам вельмі пасуе. І эканомія вялікая.

— Ну, калі пасуе і калі эканомія, то скардзіцца не буду, — мякчэе Сцёпка. — Я вам падзяку напішу, — і задаволена гладзіць блішчастую лысіну.

Дзяўчына ўсміхаецца...





























Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




## «Спецыяльнасць»

– Дык павіншуй мяне, Людміла,
Ад шчасця я скачу й пяю,
Нарэшце ўсё ж абараніла
Я дысертацыю сваю!
Ты, хочаш, вер мне ці не вер,
Я – кандыдат навук цяпер.
– Фі! – горда тая адказала, –
Знайшла ў навуцы ты мяжу...
Я вось прафесаршаю стала –
І то нічога не кажу.

**Аляксандр ЛОГА,**
*г. Маладзечна.*






Вясеннім прызывам скончылася бойка паміж студэнтам Івановым і прафесарам Пятровым.

☺ ☺ ☺

Прасунуты шаман запампаваў на бубен новыя мелодыі.

☺ ☺ ☺

На смелы і рашучы ўчынак адважыўся студэнт Іван Сідараў. Ён зайшоў у дэканат, стукнуў кулаком па стале і сказаў усё, што думае пра дэкана. Ідучы з дэканата, ён ветліва павітаўся з дэканам, які вяртаўся з абедзеннага перапынку.

☺ ☺ ☺

Вясной і ўвосень рэдакцыя праграмы «Шукаю цябе» закідана заявамі з ваенкаматаў.

☺ ☺ ☺

Сустракаюцца два выпускнікі школы:

– Ты ў інстытут паступіў?

– Не. Ды і навошта, у мяне ж плоскаступнёвасць!

☺ ☺ ☺

Заняткі на ваеннай кафедры:

– Гэта аўтамат Калашнікава. Яго даўжыня ад мушкі да прыклада 56 сантыметраў, а ад прыклада да мушкі – 73 сантыметры.

– Гэтага не можа быць!

– Тлумачу на прыкладзе з жыцця: з серады да пятніцы колькі будзе? А з пятніцы да серады?

☺ ☺ ☺

Сяброўка пытаецца ў бландзінкі:

– Чаму сумная?

– У пасольстве анкету не прынялі для візы.

– Чаму?

– У самым канцы, у графе «Не запаўняць», я напісала: «Добра».

☺ ☺ ☺

Калі вынайшлі компас, ён таксама не ўсюды «лавіў».

☺ ☺ ☺

Каб спяваць караоке, слых не патрэбны. Патрэбны добры зрок, адсутнасць сумлення і разетка.

☺ ☺ ☺

Дамашні тэлефон патрэбны хаця б для таго, каб можна было знайсці мабільны...

☺ ☺ ☺

Вучоныя вызначылі, што сшытак – гэта складаны, мнагаклетачны арганізм.

☺ ☺ ☺

– Сёма, паглядзіце на гэтыя мазолістыя рукі. Гэты чалавек зусім не хоча працаваць галавой...

Анекдоты

## У пластылінавым свеце...







Фота Аляксандра ПЯТРОВА.

# ІМПАРТ



Малюнак Зігмунда ЗАРАДКЕВІЧА (Польшча).



Малюнак Кліва КОЛІНЗА (Англія).



Малюнак Лоса ТОМАСЕНА (Нідэрланды).



Малюнак Югаслава ВЛАНАВІЧА (Сербія).




Малюнак Рычарда ДЗЕМА (Бельгія).




Малюнак Мішэля РАМАНА (Францыя).

## Віншуем!




Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Мікола ПАДАБЕД**




Вялікая радасць у мяне здарылася: адвёз жонку ў бальніцу. Дакладней, у раддом. Не паспеў вярнуцца дахаты, як прыбег сусед Міцька і з парога загарлапаніў:

– Віншую цябе, Федзя! Малайчына! Не мінула і трох месяцаў, як вы пажаніліся, а жонка ўжо раджае!.. Лоўка атрымалася. Відаць, па нейкай новай тэхналогіі. Падзяліся вопытам!.. А каб Бог паслаў табе сыночка – налівай! Па поўненькай!

Селі за стол. Кульнулі па чарцы, затым – па другой... Нажлукціліся так, што не помню, як адключыліся... А калі праспаліся, зноў селі за стол. Пахмяліліся. Затым Міцька і кажа:

– Схадзіў бы ты, Федзька, у раддом, а то так і прыбаўленне правароніш.

Спахапіўся я. Купіў фруктаў, шампанскага, цукерак... Пасунуліся мы ў бальніцу. Але тут адкуль ні вазьміся – жонка Міцькіна з'явілася. Ухапіла яго за каўнер – і пацягнула дахаты. Я разгубіўся, крычу:

– Міцька, дзе той раддом?

– Ды мы амаль дайшлі, вунь будынак трохпавярховы. Дуй туды!..

Падыходжу я, значыцца, да будынка. На вокнах – краты. «Навошта? – думаю. – Каб немаўляткі не разбегліся? Ці каб мужыкі да жонак не рваліся?» Задраў галаву ўверх і крычу:

– Лю-ся-я! Ты дзе? Я прыйшоў!

Тут як з-пад зямлі ўзнік міліцыянер. Капітан. Яны заўсёды такія: калі трэба, дык няма, а тут – калі ласка! Паглядзеў ён на мяне, як пракурор на злодзея і грозна пытаецца:

– Чаго крычыш? Што трэба?

– Жонцы перадачу прынёс, – прамармытаў я. – А ты хто такі?

– Дзяжурны па аддзяленні, – адрэкамендаваўся капітан і пацікавіўся: – А калі Люську забралі?




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Алега ПАПОВА.




– Учора вечарам.

– А якая нягода з ёй здарылася? Цяжкая?

– Але, таварыш капітан, цяжкая. Не менш чым чатыры пуды важыць... – пагадзіўся я і вырашыў прызнацца: – Але Люська не вінаватая. Гэта я яе падбухторыў.

– Учыніць злачынства? – на твары дзяжурнага паказаліся кроплі поту.

– Ну, можна і так сказаць...

– Значыць, і ты там павінен быць! Як саўдзельнік!

– Не трэба! – узмаліўся я. – Пашкадуйце! Лепш перадайце Люсьцы перадачу!

– А што ў ёй?

– Ну, як звычайна – фрукты, цукеркі, шампанскае... Можаце адну пляшку сабе ўзяць! – расшчодрыўся я.

– Зусім з глузду з'ехаў! – закрычаў міліцыянер. – Шампанскае для злачынцы? Ды гэтага ніхто не дазволіць. Нават сам начальнік міліцыі!

Пачуўшы такія словы, я абурыўся:

– І што гэта за парадкі! Каб жонку ўбачыць, трэба начальніку міліцыі ў ногі кланяцца? А можа, мая Люська не дачакалася і ўжо нарадзіла? Я знайду на вас управу! Да самога міністра дайду!

– Нарадзіла? – вылупіў вочы капітан.

– А што яшчэ ў раддоме рабіць? – успылілў я.

– У раддоме? – перапытаў ён і гучна зарагатаў.

Я хацеў зноў пакрыўдзіцца, але праз смех капітан змог прагаварыць:

– Раддом побач, а гэта – райаддзел міліцыі!..

Міліцыянер трапіўся спагадлівы: у КПЗ мяне не пасадзіў, а адправіў дахаты, каб праспаўся.

А назаўтра раніцай мне патэлефанавала жонка:

– Федзька, ты дзе? Завёз мяне ў бальніцу і носа не паказваеш!

Я разгубіўся і чэсна адказаў:

– Не было часу. Дзіця замочваў.

– Якое дзіця? Ахламон! – ускіпела жонка. – Мяне ж на захаванне паклалі, вітамінамі шпігуюць, а нараджаць мне праз два месяцы!..

Паклаў я трубку і ледзь не заплакаў ад крыўды. На сябе самога. Ну, і на Федзьку таксама: гэта ж ён прапанаваў дзіця замачыць, а я, дурань, і пагадзіўся... Усё, больш ні кроплі ў рот не вазьму! Пакуль сын не народзіцца!..

Мікола Падабед – вядомы гумарыст, журналіст, пісьменнік, які «агнём сатыры і гумару» змагаўся з падхалімамі і хабарнікамі, бюракратамі і прахіндзеямі ўсіх масцей. Многія героі яго фельетонаў, гумарэсак, крытычных артыкулаў узяты з жыцця, маюць рэальных прататыпаў.

Больш за трыццаць гадоў Мікалай Іванавіч узначальваў бялыніцкую райгазету «Зара над Друццю». Але знаходзіў і хвіліны для смеху – друкаваўся ў «Вожыку», у шэрагу рэспубліканскіх часопісаў і газет, у калектыўных зборніках. Выдаў дзве кнігі гумару.

«Вожык» шчыра віншуе свайго даўняга і надзейнага сябра Мікалая Іванавіча ПАДАБЕДА з 75-годдзем і зычыць яму моцнага здароўя, творчага плёну і добрага настрою!







Малюнкі Паўла ГАРАДЦОВА, тэмы Міхася СТЭФАНЕНКІ.




**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## Скорагаворка

Ля люстэрка
Зранку Грак
Прымярае чорны фрак.
Кажа Шпак:
– Ты сёння франт!
Плаціш як –
Рубель ці франк?
Падказала Зебра:
– Разлічыся
Еўра!

*г. Жабінка.*



**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## МАРАТ

Мікалай – Маратаў брат
Служыць на граніцы,
І таму заўжды Марат
Братам ганарыцца.

Службу добра брат нясе,
Мір вартуе мужна,
Каб жылі спакойна ўсе,
Працавалі дружна.

На значках, што носіць брат,
Слова ёсць «Выдатнік».
Хоча вырасці Марат,
Стаць такім салдатам.





## ПАГРАНІЧНІК

У снег, навальніцу,
Удзень і ўначы
Ён нашу граніцу
Гатоў сцерагчы.

Каб мірна краіна
Заўсёды жыла,
Квітнела няспынна,
Шчаслівай была.

І пільны, і ўмелы,
Куды ні пашлі,
Ён верны і смелы
Сын роднай зямлі.




## Чаму не выспаліся раней?

Вечарамі бацькі заўсёды гуляюць на двары з маленькім сыночкам. Разам ім вельмі весела. Калі ж трэба ісці дахаты, хлопчык пачынае капрызнічаць – яшчэ не нагуляўся. Бацькі скардзяцца, што стаміліся, хочуць спаць. Хлопчык трэ вочкі і пытае:
– А чаму вы не выспаліся, калі мяне яшчэ не было?

**Даслала Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*

## *Чым адрозніваецца цень?*



## МАТЭМАТЫК

— Два кіло заважыў певень
На адной назе і ў пер'і.
А на дзвюх нагах, хто скажа,
Колькі певень той заважыць?
Адказала Ніна шчыра:
— Ну, вядома, што чатыры!..

**Эра СТАВЕР,**
*г. Салігорск.*






Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.




### Дарослая

— Дачушка, чаму ты сёння рана паклала спаць сваю ляльку? — пытаецца бацька.

— Бо ёй нельга сядзець каля тэлевізара. Там сказалі, што кіно для дарослых! — тлумачыць малая.



### Камедыя ці трагедыя?

— «Рэвізор» — гэта камедыя ці трагедыя? — пытаецца настаўнік у класе.

Воўка цягне руку:

— Калі свой, дык камедыя, а калі чужы — трагедыя!..




### Дзе жонка?

Аксана гуляе па заапарку.

— Ой, паглядзі, якая прыгожая курачка!

— Гэта не курачка, а паўлін, — тлумачыць ёй бацька.

— А дзе яго жонка? — азіраецца па баках дзяўчынка і радасна ўсклікае: — Ведаю! Яна на кухні суп варыць!



### Добры зрок

Размаўляюць два хлопчыкі:

— А ты ведаеш, чаму зайцы не носяць акуляраў?

— Бо шмат морквы ядуць! — здагадаўся сябар.

**Даслаў**
**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ,**
*г. Мар'іна Горка.*



*Знайдзіце адрозненні.*






## Суседчына парада

«Ты паслухай, што за дзіва, –
Мне паскардзіўся сусед. –
Жонка збегла на Мальдывы,
Сам сабе вару абед!

Начапляла завушніцаў,
Прадала каня, курэй,
І надумала, дурніца,
З вёскі збегчы як далей!

Тут мне, кажа, сонца мала,
Акіяна бліз няма...
Муж і той зусім няўдалы,
Пагляджу на свет сама.

Трохі там пазагараю,
Адпачну ад мітусні,
Хоць замежжа «паспытаю»
Без ніякае хлусні.

Можа, жонка і не страта,
Ды курэй, каня шкада,
І стаіць пустая хата...
Не жыццё – адна бяда!»

Я ж суседа суцяшаю
І даю намёк няўзнак:
«Жонка розуму не мае,
Ты ж затое – халасцяк!

Кінь, суседзе, не журыся,
Тэлеграму толькі дай:
«Я, здаецца, прыжаніўся,
Не спяшайся. Загарай!»

**Вольга САКАЛОВА,**
*г. Мінск.*



## Бэз

Цвіў такі прыгожы бэз!
Я пад куст яго залез.
Доўга на траве ляжаў,
Водар бэзавы ўдыхаў.

Потым я, ад бэзу п'яны,
Пацягнуўся да Мар'яны.
Белы бэз ёй падарыў,
Штосьці ласкава гаварыў.

Ад тых слоў доўгачаканых
І Мар'яна стала п'янай.
Вочы нам заслаў туман,
Нейкі ахапіў дурман...

Мы пасля такой забавы
Мусілі вяселле справіць.
Нарадзіўся сын Алесь.
Дзякуй, дзякуй, белы бэз!

**Таццяна ДЗЕМІДЗЕНКА,**
*г. Мінск.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Міколы НАВАРЫЧА.

## Ганнін пачастунак

*Гумарэска*

Людцы мае добрыя! Што ж гэта робіцца? Сярод белага дня людзей атручваюць...

Але раскажу ўсё па парадку. Прыбягае неяк да мяне Ганна Юсцікава і просіць:

– Апанаска, даражэнькі! Дай мне, родненькі, каня дроў прывезці. Далібог жа, не выйсці мне з тваёй хаты, пляшку першачку прынясу за тваю ласку...

Што ж, выручыў Ганну. Усё-такі першаку бутэлька ў гаспадарцы не лішняя. Запас бяды не чыніць. Бяры, кажу, жанчынка, «Гітлера» (Гітлерам я заву касавокага і надта зброддлівага каня).

А назаўтра, як і абяцала, прыпёрла мне Ганна пляшку. Ну, думаю, запас запасам, а пахмяліцца трэба. Наліў шклянку, заплюшчыў вочы ды кульнуў за сваё здароўе. Хвілін праз трыццаць і, праўда, узяло мяне – будзь здароў! Сорам сказаць: цэлую ноч у двары пад яблыняй праседзеў!..

Прыцягнуўся пад раніцу ў хату ледзь жывы. Гляну ў люстэрка і не на жарт спужаўся: твар зялёны, пад вачыма мяшкі, а вочы фосфарным святлом гараць. Дайшоў да стала, зірнуў на бутэльку, ажно ў ёй жаўтаватымі зайчыкамі пераліваецца... самы звычайны сланечнікавы алей.

А тут і Ганна на парозе з'явілася. Глянула на мяне і ўзялася хліпаць-галасіць:

– От дурніца я, дурніца! Гэта ж во як, Апанаска, было. Дадумалася я сярод бутэлек з алеем, воцатам ды іншымі вадкасцямі ад свайго Ваські першачок схаваць! Ага, схавала... А як да цябе, Апанаска, бегла, дык на кухні святло не запальвала, каб мой не бачыў, і з шафкі навобмацак бутэльку схапіла! Даруй ты мне, бабе дурной! Толькі сёння агледзелася, як бліны пячы ўзялася!..

Вось так і атрымалася, што Ганна ад свайго мужа сто грам хавала, а пiць мяне адвучыла: я пасля той «апахмелкі» і кроплі ў рот больш не бяру. Не хочацца неяк, ведаеце... Лепш ужо каўбасой, як кажуць, пальцам піханай, атруціцца!..

**Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

# «ПАЛАСАТЫ» СМЕХ



Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.


Малюнак Алега КАРПОВІЧА.


Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Навіны з МУС: матай на вус

### Нечаканы фініш

***Магілёў.*** На поўным сур'ёзе пераконваў 40-гадовы магілёвец свайго 18-гадовага пасынка, што ён сапраўдны Шумахер. Для пераканаўчасці нават быў наладжаны заезд па начных вуліцах. Не перашкодзілі ім ні тое, што машына была чужой, ні тое, што самі былі на добрым падпітку.

Але на фінішы заезду айчыма з пасынкам сустрэлі не кветкамі і шампанскім, а — наручнікамі. Падпіты сабутэльнік, у якога адзін з іх цішком выцягнуў ключы ад «Мазды», на раніцу ачомаўся і выклікаў міліцыю.

За такія манеўры зухаватым «шумахерам» пагражае да 7 гадоў зняволення.

### Падвёз пад манастыр

***Бабруйск.*** Дынамічна развіваліся падзеі яшчэ ў адной аўтагісторыі. Нецвярозы бабруйчанін вырашыў пракаціць свайго сябра з ветрыкам. Пасадзіў яго ў чужыя «Жыгулі» (маўляў, машына майго знаёмага, магу катацца, калі захачу) і пайшоў шукаць інструменты, каб завесці рухавік.

— Далёка сабраліся? — падышоў да машыны яе сапраўдны гаспадар.

— Не ведаю, — шчыра адказаў пасажыр. — Машына не мая, сябра. Хаця, чэсна кажучы, і не сябра, а так, яго знаёмага. Але завесці не можам.

— Я вам дапамагу, — ухмыльнуўся гаспадар. — Вось толькі вадзіцеля дачакаюся...

Неўзабаве з'явіўся вадзіцель, а за ім — і міліцыянеры, якія хутка ўстанавілі, хто гаспадар, а хто ўгоншчык аўто. А вось хто каго падвёз пад манастыр, здагадайцеся самі.

### Як цяля ў Магілёў ездзіла...

***Магілёўская вобласць.*** Як вядома, Макар ганяў цялят вельмі-вельмі далёка. А вось трое мясцовых зламыснікаў цяля не пагналі, а — павезлі на машыне ў Магілёў.

Калі гарадскія даішнікі выпадкова спынілі аўто і адчынілі багажнік, цяля так жаласліва паглядзела ім ў вочы, што яны адразу здагадаліся, што да чаго.

Такім чынам цяля засталося жывым і вярнулася на ферму ў вёску Запаточча, адкуль было выкрадзена. А любіцелям ялавічыны, якія раней ужо былі асуджаны за крадзеж, «свеціць» да 4 гадоў зняволення.

***По матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

## Каб і хацеў — не прыдумаеш!

► «Калі не зманіць, дык навошта і праўду гаварыць?»
*(З размовы.)*

► «Ваш сын Вася зноў алгебру правёў на стадыёне!»
*(Заўвага ў дзённіку.)*

► «Вадзіцель Іваноў быў вельмі п'яны. Ён нават не мог на пагонах зорак злічыць: назваў мяне, лейтэнанта, маёрам!..»
*(З пратакола інспектара ДПС.)*

**Выпісаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

► «Сёння крама зачынена, паехала ў раён са справаздачай».

► «Купляю свініну, цяляціну, ялавічыну ад насельніцтва да года».

► «У магазіне прадаецца добрая атрута ад пацукоў з мышамі».
*(З аб'яў.)*

**Прачытаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

► «Моладзь з новенькімі дыпломамі аб дачыненні да вялікай і складанай прафесіі педагогаў прыйшла на канферэнцыю».

► «Сёння ж сеялка спяшалася за трактарам, запраўляючы ў глебу мільёны ярка-малінавых зярнятак азімых».

► «Гэты год парадаваў сваёй урадлівасцю».
*(З газет.)*

► «Пачалі церабіць гэтую праблему».

► «Звярніце ўвагу на туалеты, таму што гэтае месца ў кожнага з вас павінна быць у галаве!»

► «Далі поўную карціну расплодаў па кожнай карове, уключаючы даярак».

► «Каб доўга не хадзіць да гэтага пытання».

► «Я хачу пазнаёміць вас з шырокавядомым паэтам».
*(З выступленняў.)*

► «Знішчылі дзесяць літраў самагонкі шляхам выпівання».
*(З міліцэйскага пратакола.)*

► «На дапамогу вяскоўцам хутка прыбыла група новых трактароў».

► «У полі ў гэтыя дні працуюць трынаццаць трактароў, а таксама іншыя работнікі. Усе яны, занятыя на сяўбе, маюць магчымасць памыцца ў душы ў майстэрні».

► «Бяром малако ад кожнай даяркі».

► «Кідаюць пад ногі акуркі і залазяць у аўтобус, хоць побач стаіць урна».
*(З заметак у газетах.)*

► «Усім хоць штосьці, хоць крышачку далі, а мне нават ніхто і ў вочы не плюнуў».
*(Са скаргі.)*

► «Выказваю вялікую падзяку вашым супрацоўнікам за тое, што знайшлі мой мабільны тэлефон, хоць гэта і не жывы чалавек».
*(З пісьма ў аддзел міліцыі.)*

**Даслаў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*

**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**




Талян пастрыг газон Каляну –
Калян яму накрыў паляну.
За тостам тост – шуміць паляна,
Тым часам рос газон Таляна.

Калян пастрыг газон Таляну –
Талян яму накрыў паляну.
Гудзела дзень пры дні паляна,
Пакуль падрос газон Каляна.

Талян пастрыг газон Каляну –
Калян накрыў яму паляну.
За дачнай чаркай ля газона
Няўзнак мінула паўсезона.

Пайшлі дажджы. Вышэй паркана
Папёр уверх газон Таляна.
Калян пастрыг газон Таляну –
Талян яму накрыў паляну.

Прыселі моўчкі ля газона.
Ну хоць заплач – канец сезона.




**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 5 (1484), 2012 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Літаратура і Мастацтва».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Павел САКОВІЧ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

**Рэдакцыя:**
Павел САКОВІЧ *(аддзел літаратуры)*, Алесь НАВАРЫЧ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*.

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Алена МАКАРЭНКА.

**Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, праспект Незалежнасці, 39.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail:a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела — 284-84-52, бухгалтэрыі — 284-66-72, факс — 284-84-61.***

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык». Разглядаюцца рукапісы, надрукаваныя на машынцы або набраныя на камп'ютары. Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

Падпісана да друку 14.05.2012
Фармат 60х84 1/8.
Афсетны друк.
Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,76.
Тыраж 1942 экз.
Зак. 1297.

Кошт нумара ў розніцу 12 200 руб.

РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.